біўшы стрэльбы баявымі набоямі, навяла стрэльбы на дзяцей і толькі прысутнасьць духу старшых вучняў адвярнула праліцьцё крыві, якое гатова было здарыцца.

Даведаўшыся аб тым, што дзеялася, старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту І. Краскоўскі, разым з сябром Камітэту інжэнерам А. Трэпкаю, зьвярнуліся да польскіх уладаў, дамагаючыся, па крайняй меры звальненьня з-пад арышту затрыманых у Гімназіі некалькіх сот дзяцей. Аднак старшыня польскага ўраду „Сярэдняе Літвы“ Мэйштовіч адмовіўся прыняць іх тое самае зрабілі і іншыя вышэйшыя прадстаўнікі ўлады. Толькі дзякуючы звароту да пракуратуры прыватных асоб—палякоў, абураных гвалтам улады над беларускімі дзяцьмі, арыштованыя школьнікі былі а 2 гадзіне ўдзень выпушчаны на волю.

Усе арыштованыя беларускія дзеячы адразу пасьля арышту былі адведзены ў Цэнтральную Турму на Лукішках.

Вільня, 21 студня 1922 г.

Старшыня Камітэту

(—) І. Краскоўскі.

За Сэкрэтара

Сябар Прэзыдыуму

(—) Ант. Луцкевіч.

„Бел. Звон“, № 4 (28)—27. І. 1922.

## Жыдоўскі голас у справе арыштаў літоўска-беларускіх дзеячоў.

Старшыня Жыдоўскае Гміны м. Вільні, д-р Я. Выгодскі, надрукаваў ў газэце „Der Fraind“ (з 25. І. 1922 г. —№ 22) ніжэйпісанае: „Як грамадзянін нашага краю, я не магу змоўчыць і ня выказаць свайго вострага пратэсту-проці сьвежых арыштаў беларускіх і літоўскіх дзеячоў, вырваўшых больщых мясцовых палітычных і культурных літоўскіх і беларускіх працаўнікоў. Пэўне-ж, будзе судовае сьледзтва, будзе разбор справы, а сьляпая юстыцыя можа будзе здаволена вынікам гэтага.

„Аднак гэта ня мае вагі: яна—сьляпая! Важна нешта другое. Важна тое, што за кароткі час многа ўстаноў, газэт і грамадзкіх працаўнікоў адарваны ад дзела і гэта зроблена на „законнай“ аснове... Дык мы павінны глядзець на гэта не як на рэч прыпадковую, не як на капрыз, а як на сыстэму. Як відаць, ёсьць жаданьне зусім вынішчыць літоўскую і беларускую культуру ў нашым краю—ad majoram Poloniae gloriam... Так здаецца.

„За апошнія 30—40 гадоў у нашым краю пад уціскам праклятага царызму вытварылася еднасьць вядомых інтэлігенцкіх дэмакратычных кругоў усіх чатырох нацыянальнасьцей, якія тутака жывуць, каб сумесна з адпаведнымі расейскімі кругамі бараніцца ад супольнага ворага і вясьці з ім барацьбу. Ведама, паадзінокія нацыянальныя групы мелі не аднакальковыя ідэалы адносна да ўстройства будучыны краю, ведама, яны ў гэтым пытаньні больш або меньш розніліся паміж сабой. Але ўсіх іх злучаў праўдзівы, дэмократызм, імкненьне да волі і роўнасьці і ненавісьць да царызму. Многа ахвяр панясьлі гэтыя арганізацыі, многа пагібла байцоў, яшчэ больш цяжка пакараны, але справа, за якую яны цярпелі, разьвівалася ўсё далей і далей.

„Ад пачатку сусьветнае вайны еднасьць гэтых дэмакратычных арганізацый бязустана выяўлялася. Усе акупанты краю ваявалі проці гэтае сілы, выхопліваючы паадзінокіх байцоў і кідаючы іх у вастрогі. Цяпер з гэтай арганізацыі выхапілі большасьць літоўскіх і беларускіх дзеячоў і засадзілі ў вастрог. Мы з імі з усімі жылі разам, ваявалі ўпорна разам за сьветлую будучыну нашага краю, разам цяжкія ахвяры складалі. Пачуцьцё шчырае прыязьні і пашаны лучыць нас з імі. Горача пратэстуючы проці арыштаў маіх паважаных таварышоў і прыяцеляў, я скланяю прад імі галаву ў мамэнт іх пачэснага палону, выказываючы ім дружбу і пашану“.

## Пратэст

Камітэту Літоўскага Навуковага Товарыства да Прэзэса Тымчасовай Урадовай Камісіі.

Ў ночь з 19 на 20 студзеня г. г. згодна распараджэньня пракуратуры Акружнага Суду была зроблена рэвізыя ў памэшканьнях многіх віленскіх літвіноў, а разам з тым ў іх грамадзянскіх арганізацыях і рэдакцыях газэтаў, пры гэтым шмат жыхароў м. Вільні літвіноў было заарыштавана і пасаджэна ў турму на Лукішках, між іншымі сябры Камітэту Літоўскага Навуковага Товарыства, а ласьне Міхал Біржышка, д-р філазофіі Фр. Аўгустайтіс і д-р Ян. Аўгіевіч, а ў ноч з 4 на 5-ае лютаго разам з іншымі пасаджэнымі ў турму былі вывязены з города і пры дэмаркацыйнай лініі выпушчаны.

Дзеля таго, што ўсе яны былі пасаджэны ў турму з распараджэньня віленскай пракуратуры і большая частка іх—ласьне д-р. Аўгустайтіс і др. Аўгіевіч—нават ня былі дапрошаны на судзе і бяз прыгавару суду былі пакараны выгнаньнем з краю, што з'яуляецца нязгодным з фундамэнтальнымі подставамі карнаго кодэксу ў кожным культурным краі,-дзеля гэтаго Камітэт Літоўскаго Навуковага Таварыства на паседжаньні сваім 12 лютага г.г. пастанавіў злажыць да Прэзэса Тымчасовай Камісіі Урадовай станоўчы пратэст проціў бязпадстаўнай і няправідловай высылкі вышэй памянутых сяброў Камітэту і жадаць удзяленьня ім права звароту да м. Вільні.

Камітэт Літ. Нав.-Т-ва

## Пратэст

бацькоў і апекуноў літоўскіх вучняў, старшыне Часовай Урадуючай Камісіі.

Мы ніжэйпадпісаўшыяся, бацькі і апекуны літоўскіх учняў, сабраўшыся 5-га гэтага лютага на выбары бацькаўскага камітэту, даведаліся, што сярод арыштованых 20-га студня у ліку 34 асоб літвіноў знаходзяцца: 1) Міхал Біржышка—дырэктар Віленскай Літоўскай Гімназіі, 2) Віктар Біржышка—вучыцель матэматыкі; 3) Анд. Рандаманскі--вучыцель польскага языку; 4) Іван Грабоўскі—кіраўнік нізшай 4-х кл. школы і 5) Юры Мілеўскі — кіраўнік 2-х кл. школы.

Вышэйпамянёным асобам мы даверылі выхаваньне і навучэньне нашых дзяцей. Літоўскія школы на выгнаньню іх з займаванных кватэр, сыстэматычна душацца уладімі Сярэдняе Літвы, адтрымліваючы цяжкія удары, каторыя вельмі зашкодзілі вучэньню нашых дзяцей.

А цяпер замкнуўшы у працягу 2-х тыдняў у турмэ, вышэйназваных кіраўнікой і настаўнікаў школ без уселякае віны, без абвешчаньня акту абвінавачаньня, і не пацягнуўшы іх да судовай адпаведальнасьці, за іх нібы правінасьці, выслалі самавольна і безпраўна з краю Сярэдняе Літвы.

Дзеля чаго мы гэтым выносім катэгорычны пратэст проці прыгнечаньня права, якое цяпер існуець, і не дае ніякіх гвindependentарантыяць асабістай недатыкальнасьці спакойным грамадзянам краю, жада-

ем каб зараз жа нашыя настаўнікі адтрымалі магчымасьць павароту а таксама школам літоўскімі і іх настаўнікам праў раўных з правамі настаўнікаў школ польскіх.

Вільня, 7-га лютага 1922 г.

Падпісалі: 60 бацькоў і апекуноў, жыхароў Вільні.

---

## Пратэст студэнтаў - беларусаў Віленскага Унівэрсытэту.

Студэты - Беларусы Віленскага Унівэрсытэту сабраўшыяся на сходцы 26 студня 1922 году і абгаварыўшы факты, меўшыя мейсца ў працягу апошніх дзён, пастанавілі запратэставаць:

1. процiў факту дакананай ў памяшчэньні Беларускага Студэнцкага Саюзу рэвізыі ў начы з 19 на 20 студз. без дазволу Яго Магніфіцэнцыі, тым больш, што згодна з статутам Саюзу, зацьверджаным праз Унівэрсытэцкую уладу, Саюз ёсьць арганізацыей выключна культ.—прасьветнай;

2, процiў дзейнасьці пэўных груп „студэнтаў“ Віленскага Унівэрсытэту, каторыя ў шапках „батароўках“, значыцца, выступаючы афіцыяльна студэнтамі, як агенты паліцыі прыймалі учасьце ў арыштах і рэвізыях ня толькі ў арганізацыях грамадзянскіх, а нат і у студэнцкай арганізацыі (ў памешканьні Бэларус кага Студэнцкаго Саюзу), аб чым яны добра ведалі таму, што маніліся выламаць дзьверы, на которых вісела абвестка, падпісанная праз Яго Магніфіцэнцыю;

3) процiў спосабу рэвізыі ў Беларускай Гімназіі, калі малыя дзеці—вучні, ня гледзячы на тое, што ў гімназыі ад 3-яй гадзіны ў ночы вялася рэвізыя: прапушчалі у гімназію, а з яе ня выпушчалі награжаючы аружжам;

4) процiў рэвізыяў ў інстытуцыях, каторыя маюць культур.—прасьвет. мэты, і нічога супольнага з палітыкай нямаюць, напр., Беларуск. Муз. Драм. Гурток, Беларуская Гімназія і г. д.;

5) Процiў таго, што польская улада не дае беларускаму грамадзянству свабодна працаваць, зачыняе беларускія грамадзкія установы і школы, спынівае газэты, арыштоўвае дзеячоў і наагул выказывае зусім выразнае імкненьне да спыняньня беларускага руху.

Дзеля гэтых прычынь, студэнты беларусы лічаць няпэўным, што ў будучыне іх арганізацыя будзе мець магчымасьць свабодна разьвівацца.

„Бел. Звон“ № 4 (29).

## Пратэст жанок высланых з Вільні беларусаў і літвіноў.

Мы ніжэй падпісаныя, жонкі высланых з Вільні беларусаў і літвіноў асталіся без апекі мужоў дзеля таго толькі, што яны ня былі здраднікамі сваей бацькаўшчыны і адкрыта, сумленна баранілі яе правы, як гэта павінен рабіць чэсны грамадзянін, мы пратэстуем і даводзім да ведама ня толькі тутэйшага грамадзянства, але й усяго культурнага сьвету, што тутэйшая ўлада, паступіла беспраўна і не палюдзку.

Змучаныя і зусім знебыткаваныя з болем у акрываўленым сэрцы пытаем: за што?!

Ці-ж магчыма каб у краю, каторы хоча быць культурным, каторы гардзіцца сваім патрыятызмам, тэлёранцыяй і г. д., тварыліся гэткія бязчынства: людзей сьветлых, ведамых ня толькі у краю, але і за граніцай, забіраюць ў ночы у астрог, як найгоршых збойцаў, трымаюць іх тыднямі ня толькі бэз судовага сьледзтва, але навэт бэз дапросу і, урэшце, высылаюць у ночы няма ведама куды, перад гэтым даставіўшы іх дамоў пад моцнай вартай, каб у працягу колькі мінут перапрануцца і развітацца з асірацелай раднёй і плачучымі дзяцьмі?! Сцэна разьвітаньня, у час глыбокай ночы пры надзвычайнай таёмнасьці, выразна рабіла уражэньне, як развітаньня з прысуджанымі на сьмерць і магло нас вывіхнуць з розуму і адняло нам здароўя на колькі год! Вандалы толькі маглі адважыцца на нешта падобнае, маглі чыніць такі зьдзек над прыбітымі і засмучанымі і без таго жонкамі і дзяцьмі.

Такіх гвалтаў нельга забыцца і даравадь. А дзе віноўнікі? Хай ведае грамадзянства, што установы, да каторых мы зьверталіся, давалі нам такі адказ: „Мы нічога ня ведаем, гета ня наша віна, гэта загад вышэйшай улады“. І няма віноўнікаў, бо, відаць, сорамна прызнацца! Дык за што-ж, за што нашы мужы і мы мучыліся і цяпер пакутуем?

Патрабуем рэабілітацыі нашых мужоў, патрабуем безэдкладнага звароту іх у Вільню, патрабуем агалашэньня абвінавачэньня і рэзультата дапросаў, патрабуем гласнасьці, асьвятленьня усей справы, бо да гэтуль тутэйшая улада стараецца справу гэту зацерці, а польская прэса разносіць яе да аграмадных размэраў агіднасьці, з метай воража настроіць жыхароў супроць беларусаў і літвіноў.

Л. Аўгіевічыха.
А. Аўгустайціс.
Б. Біржышка
Г. Гарэцкая.
З. Краскоўская.
Невядомская.
( x x̆ x )
А. Пракулевіч.
Ф. Рэндэманская.
І. Стадзевічыха
П. Семашка.
М. Шульц.

---

## Урадовы камунікат

у справе арыштаваньняў.

У справе арыштаваньняў зробляных праз віленскія судовыя ўлады ў студні г. г. Прадстаўнік Віленскага Агенства Прасовага Дружаў даведаўся з пэўных жаралоў гэткіх інфармацыяў.

Матэр'ял дапытаваньняў і, да гэтага часу, матэр'ял сьледчы паказалі:

1) сьпісак імкненьня да пераваpоту, залежны ад Ковенскага Ўраду і групы Ластоўскага працуючай з Коўны, засілены вялікімі сродкамі;

2) арганізацыю шпіёнскую і баявую;..

3) дзеяльнасьць замераваючую да завастрэньня нацыянальных адносін;

4) памаганьне камуністычнай дзейнасьці дзеля выкарыстаньня яе для сваіх мэтаў, а таксама супольная праца нікаторых абвінавачавых у гэтай дзейнасьці;

5) дзейнасьць папіраючая сьпекуляцыю і ваенную ліхву інспіраваную праз Коўну з варожых пабуджэньняў;

Вэйшыйшыя закіды зфармуляваные праз сьледаваделя ёсьць прадвідзяныя ў артыкулах 100, 101, 107, 108 — п. 6, 125 і 120 Кодэксу Карнага, а таксама ў Дэкрэтах аб ваенай ліхве. Аказаваецца, што ў часе калі сабраўся выбраны праз вялікую лічбу люднасьці сойм, каторы меўся пастановіць аб лёса краю,група агітатаpаддалася злудам, што здужае раў зрабіць у краі забурэньне. Не знайшла яна сярод мясцовай люднасьці паслухмянасьці, а судовыя ўлады перарвалі яе спакусы. Ня хочучы замучаць урачыстага часу, калі воля людносьці ў выказаньні сойму знайдзець сваё выращэньне, а таксама перагавораў запрапанаваных праз Ковенскую Літву і прінятых у Варшаве на многаразовых умешаваньнях Ўраду Речы Паспалітай Польскай выданы гэткі загад:

Павінны быць дастаўлены на дэмаркацыйную літоўскую лінію і пераданы ковенскім уладам:

1) Аўгустайціс Пранцішак, 2) Біржышка Міхал, 3) Біржышка Віктар, 4) Дубіна Улас, 5) Гарэцкі Максім, 6) Інсода Пётр, 7) Якубецкі Андрэй, 8) кс. Кухта Язэп, 9) Карабач Александар, 10) Купчык Зінаіда, 11) Лемеш Вінцук, 12) Марцішэўская Марыля, 13) Мічуліс Піус, 14) Мяшочак Цімох, 15) Мільлерыс Юры, 16) Невядомскі Палікарп, 17) Пракулевіч Уладзімеір 18) Палікша Аляксей, 19) Рагач Сяргей, 20) Рандаманскі Андрэй, 21) Стадзевіч Станіслаў, 22) Вайчунас Іван, 23) Шульц Тодар, 24) Ляндзберг Чеслаў, 25) Павіліс Язэп, 26) Дыша Язэп, 27) Аўгевіч Іван, 28) Грабэўскі Язэп, 29 Краўскоўскі Іван, 30) Семашка Іван, 31) Мічунас Андрэй, 32) Міхалевіч Уладзіміэр, 33) Яцкевіч Станіслаў.

З паміж арэштованых—рэшта засталася у Вільні, а значыць 2 звольнены учора, а 7 выпушчана на волю ужо даўней.

Следзства будзе йсьці далей.

„Litwa“, Nr. 4—8 II.—22.

---

## ДАКУМЕНТЫ

### Тэлеграма палк. Шардыні ў справе арыштаваных у Вільні:

(Е. 28. І.)

Прэдстаўнік Незалежнае Літвы пры Кантрольнай Камісіі Лігі Народаў гр. Яні нас зьвярунўся да Кантрольнае Камісіі з просьбай аб інтэрвэнцыі у справе асвабаджэньня арыштаваных у Вільні літвіноў. 27 студня г.г. ён атрымаў праз Генеральны Штаб гэткую тэлеграму:

„У Коўну (адрэс не указаны). Польскі Урад прымаіць усе меры з мэтай прысьпяшэньня звальненьня арыштаванных у Вільні. Маю надзею, што гэта звальненьне наступіць у хуткім часе“.

Полк. Шардыні.

ВЫГНАНЫЯ з Сярэдняе Літвы літвіны і беларусы засталіся даручанымі ў нейтральным пасе ваенным уладам Незалежнае Літвы. Лейтэнанта войска Незалежнае Літвы, каторы атрымаў высланых, выдаў гэткую расьпіску: Вышэй вымяняныя 33 асобы я прыняў ад інспэктора Галоўнае Команды віленскае паліцыі камісара Сікорскага.

22. Лейтэнант Віршыла.

„Vilnietiu“

---

### У справе пратэсту віленскіх полек.

Недаўна у адным з нумэроў „Rzeczypospolitej“ змешчаны быў пратэст полек грамадзянак Віленскай зямлі, каторыя так сьвята пачытаючы, імя полькі закідаюць балотам ненавісьці, пятнуюць шалям фанатызму і засьлепеньня. Есьць полька, а дзеля гэтаго лічу абавязкам запратэставаць проці „quasi“ патріотычнай адозвы маіх „родачек“, каб хоць трохі ачысьціць полек ад ганьбячай плямы і даказаць, што ня усе полькі забыліся гонара належнага гэтаму імяні. І вот гэтыя пані зачынаюць, здавалася бы з пачатку, натта лагічна і справядліва, гаравацьнад безпраўям у цівілізаваным краі, толькі канчаюць саўсім неспадзевана, забянтэжываюць чытача, каторы быў прыгатаваны, да чагось іншага. Вотжа ж пратэст гаворыць: „прэнятыя да глыбі сэрца непакоям аб лёсе нашае каханае зямлі!!! канечна трэба прызнацца, што кожны грамадзянін і грамадзянка, дбаючаючая аб дабрабыцё сваей бацькаўшчыны, можа быць цяпер моцна занепакояны, дзеля споўненых гвалтаў і компромітацыі улады і за далейшы лёс краю... Маюць поўную рацыю!.. Далей... „стаім у абліччу нябывалага у гісторыі людзей (!) факту гвалту права“.

Кожны з чытачоў цікавячыхся справамі бягучай хвілі, зразумее, што тут гаварыцца аб безпадстаўнасьці, безпраўнасьці масавага „галосячага у неба а помсете“ арыштаваньня тутэйшых грамадзян, літвіноў і беларусоў і безчалавечным способе іх вывезеньня, каторы дзякуючы гэтаму безпраўю узрушыў думкі умеючых яшчэ адчуваць і, думаць, знаходзім у парадку, як да гэтуль... чытаем далей. „Завем цэлае грамадзянства да вытрывалага (!) протэсту у справе ратаваньня права абавязываючага усе цівалізаваныя народы“. Добра! зразумела вытрывалы павінны быць пратэст кожнаго, хто чуець сябе грамадзянінам гэтага краю, проці гвалту усіх грамадзянскіх правоў, бо на вывезеньне за граніцу дзяржавы і на выгнаньне бэз суду без доказу віны, а нават бэз дапросу, абвінавачаных, не адна з дзержаў запраўды цівілізованая, а тым балей такая каторая заўсёды гардзіцца сваёй цівілізыцыяй і культураю, ніколі сабе не пазволіць. Да гэтаго можна толькі вітать воплескамі праўду сказаную шчыра і адкрыта, але тут раптам наступае „finis coronat opus“. Канец незпадзеваны і арыгінальны, чытаемо „чыею сілаю засталіся звольненымі здраднікі істнуючага стану, ад сілы права і абавязкаў грамадзян?“ Перад усім нехай мне вольна будзя запытацца, як ужо не раз пытала суд, мненьня грамадзян і нават інтэрпэляцыя у Сойме, запытацца у вас, шаноўныя пані (сорам назваць полькі), якім правам называеце вывезеных грамадзян літвіноў і беларусоў разбойнікамі?

Чы не за натта паспешна (не разумею нашто такі пасьпех), калі яшчэ іх віна і зробленыя разбойства не выяўлены, ні судом, хаця суд гэты дабіваецца праўды і апініі, як грамадзянства, так роўна і другіх уплывовых крыніц.

Чаму ж ён маўчыць і не пацьверджае Вашага гуманнага і энэргічнага пратэсту? Чы не веедама Вам Шаноўныя пані, што такія абіды і зьневагі не застаюцца без адказу, што закіды зброднi трэба дазазаць судом? Амаль што саўсім пэўна, што грамадзянства літоўскае і беларускае станець наабарону гонару пакрыўджаных і папросіць вас, пані, аб довадах іх зброднi, бо іначей...

Баліць, калі чытаеш падобныя зьдзекі на шпальтах, знанай па сваей зласьлівай брахні „Rzeczypospolitaj“, або іншых газэт, асабліва калі гэта пішуць, кабеты полькі з такім зацятым, патрыотычным запалам ў шляхотным пратэсте, кроў стыне у жылах і страх агартае за заўтра народу, народу, каторы маець такіх кіраўнічак і павадыроў паважных інстытуцій... А калі яны ёсьць маткамі, жонкамі? Чаму, такая кабета сеючая нацыянальны антаганізм і распаліваючая ненавісьць, можа навучыць сваіх сыноў? Можа супрацоўніцтва і споўненьня ганоровай стражы пры обысках і арэштах?.. (Нехай научыць іх хоць хаваць „баторувкі“, бо яна на галаве такога студэнта можа заставіць гарэць сорама кожную шануючую сябе польку). Чаго научыць кабета, каторая падбівае да шавіністычнаго змаганьня? Кабета каторая не уздрыгне перад рожнымі сродкамі безпраўя і гвалту? Кабета, каторая нагаварываець да робленьня крыўды бліжняму?

Чы так гаворыць кабета, каторая, як праменчык сонца, павінна сваім уплывам лагодзіць і уцішаць буру страсьці? Чы так рабілі кабеты полькі, каторыя заўсёды былі у арэоле пасьвячэньня і багатырства, працуючы у імя альтруізму і чалавечнасьці? Кабета полька, каторая носіць з на-

вагаю гэтае імя і разумея яго цану, павінна абавязкова напісаць пратэст, ужо не гаворучы а безпраўі, і то хоць бы на варвараўскаў пашуканстве, з якім адбываліся процедуры саджаньня ў турму і вывязеньне вызначаных грамадзян. Кабета разумея усё больш пачуцьцём, жыве больш сэрцам ніж мазгамі, дзеля гэтага скарэй, ясней зразумея тыя маральныя перажываньня, тыя катаваньня і мукі і непакой, каторыя мусілі перажыць маткі, жонкі і дзеці пасаджаных у турму, калі пакрыўшы усё замарожываючаю кроў тайнаю, прывозілі арыштаванных о 2—3 гадзіне ў ночы, бледных, худых і не голеных на пару мінют да дому для развітаньня з раднею, казалі будзіць дзяцей і г. д.

Ці гэтыя Пані застанаўліваліся над бураю падобных духовых перажываньняў? Хіба ж не... сто раз не... Бо для гэтага трэба быць не кабетаю, маткаю і жонкаю, але... вырадкам .... но быць Полькаю. Моцна шкадую, што шаноўныя пані небылі добра панфармаваныя ў справе цяпер абгаварываемай і не ведалі, што суд, вывезеных грамадзян, яшчэ не прызнаў разбойнікамі, і караць іх выгнаньнем ня меў права, калі-б нават, як мотывуюць свае прэтэнзіі шаноўныя „родачкі“, ў турмах ковенскіх былі даўна засаджаны Палякі, то гэта напеўна зроблена па даказаньню віны, а калі-б было іначэй, аб чым я не паінфармавана, то стIсоваць „вока за вока і зуб за зуб“ не павінна зыходзіць з вуснах кабеты хрысціянкі, тым балей кабеты Кіраўнічкі Каталіцкай Сувязі Поляк. Каб некалькі шчырэй разумелі Хрыстову навуку, не пабачылі бы дзеннага сьвету, падобныя пратэсты, прыпамінаючыя часы сярэдневековага фанатызму і не плямілі бы Палячак... імёны каторых у астатнія часы, мушу з болям прызнацца, страцілі на сваім арэоле святосьць і блеск.

Маю надзею, што ўсе кабеты Полькі не заслепленыя фанатызмам згадзяцца з маімі перэконаньнямі і стануць у абарону пакрыўджанай праўды, бо... ці-ж пратэст ваш, шаноўныя пані, мог быць (о! сорам) протэстам усіх кабет Поляк?...

Хіба ж не... і сто раз не!?

Ганьба і стыд Вам Пані!

Юліана з Віхертоў Кайрукштысова.

Вільна, 14 лютага 1922 г.

(Litwa Nr. 12).

## Новыя сілы.

Арэшты ідуць і далей. Кожны дзень прыносіць нам новую чару боляў.—Даходзяць да нас нячуванна-страшэнныя весткі: ў начы 6 лютага ўсіх арыштаваных сілком адарваўшы ад роднае глебы і пазбавіўыш апекі радні: вывяззьлі за межы краю.

Навокол чуваць ціхі плач старых матак і бяцькоў страціўшых сваіх карміцеляў—апякуноў. Чуваць стогны аўдавелых жонак... плач нявінных дзяцей—сірот... Няма літасьці над хворымі. За краты халодных вагонаў ў укінуты хворыя грудзьмі Шульц і Мічуліс.

Семашку так сама хворага, выцягнулі з ложка і казалі зьбірацца ў няпэўную і невядомую дарогу. Усё гэта зроблена ў начы калі люд наш сьпіць і сніць лепшыя будучыя дні.

Зьдзек гэты зроблен тымі, што так нядаўна называў сябе нашымі братамі. Тымі хто сам яшчэ учоры быў катаваны цынізмам царскае сатрапіі. Тымі, што яшчэ так нядаўна шляхамі па далёкай Сібіры былі гнаны за кібіткамі па Расейскіх палёх.

Гвалт зрабілі тыя, бацькі каторых за вольнасьць зложылі свае збалелыя косьці ў тэй жа далёкай сьцюдзенай Сібіры.

Навакол пануе сум, старых мінулых, здавалося бы назаўсёды згінуўшых часоў. Грамадзянства Літоўскае, як калісь польскае, налажыла жалобу.

Як жаўнеры, калі пасьля цяжкае бітвы зьбіраюць застаўшыхся таварышоў, так і мы сёньня зьбіраімося ў грамаду падлічыць свае астаўшыяся сілы. Вышэй паднясем свой трохколерны штандар і будзем далей упарта і пераможна вясьці сваю барацьбу.

Гэта нічога, што вусны нашыя замыкаюць, вяжуць нам рукі, ногі і заковываюць у кайданы няволі... Будземо трывалымі, поўныя запалу і веры, каханьнем агарнутыя да незалежн. Літвы мы ня згінем, але на зло нашым ворагам, будзем жыць.

Усе хто жывы, ў каго сэрца агарнута каханьнем да Бацькаўшчыны, усе да працы, да вялікай ганаровай працы, на якую мы здольны. Мы новыя работнікі паходзім з народу і з народам ахвяруем сябе на працу ў нашых паменшаных радах і найперш усяго просім і жадаем ад вас Палякі, больш не пераконывайце нас у вашым каханьні да літоўскага народу,. бо каханьне ваша фальшывае і ў каханьне фарысыяў наш народ не паверыць. Не кажыце нам аб аслаўленным „братэрстве“ уніі, бо нават дзеці ведаюць, што Каін быў братам Авелю. Ня пужайце нас, што вы так часта—нам асабліва ў апошні час робіце, яны дадуць зусім адваротны рэзультат. Вашы пастрахі вызываюць на вуснах люздзеў іранічны сьмех. Люд добра пераканаўся. Люд імкнецца да раз пастаўленай мэты і скора, паны—шляхта, яго мазольныя рукі вырвуць ад вас краёвую ўладу. Непамогуць вам барунскія „арматы“ Мацеевічаў, ані „багнэты вольнасьці“ Бандурскіх. Не памагуць вашыя аслаўленыя фразы „за нашу і вашу вольнасьць“. Не памагуць вам ухвалы наскора злепленага Вамі Соўму. Бо вольнасьць усіх лепшых сыноў нашае зямлі, абараняючых сьвятыя правы народу і адкрыта абвесьціўшых барацьбу ў прэсе, скончылася закратамі Лукішскай турмы і нарэшце прымусовай высылкай за межы краю. Балей няма тут свабоды. Есьць насільства толькі, есьць гвалт, есьць панцэрны кулак. Сродковай Літвой, карыста, еца толькі разбэшчаны Ян Обст з зялезнаю мятлою і вартые яго, таварышы. Як прычына арэштаўнам інкрымінавана бальшавізм, бомбы, гранаты і падкопы пад Віленскі Сойм. Мабыць, вядомыя ў Вільні „бальшавікі„: кс. Кухта канонік Віленскай Капітулы разам з п. М. Біржышкам, знаным у краі і заграніцай, рабілі падкоп са стараны Коўны і каб ня рэчка Вілія дакапаліся бы да Сойму. Сорам і ганьба змагацца з такімі шляхетнымі людзьмі такім агідным—зусім не культурным непадхадячым аружжам. Трэба ж было хоць памятаць усім вядомую прыказку. „Хто фальшаю вядзе барацьбу, сам ад фальшы гініць“.

Застанавіцеся на момэнт...

Паглядзіце сьмела, па мужчынску праўдзе ў вочы і ўбачыце вашую ману, якую люд наш разумеіць дасканальна. Даведайцеся, безінтэрэсоўна і далікатна, што думае о вас народ. Пераканаецеся, што свабоду і волю, якую вы нясіцё на вашых штыкох—ен ненавідзіць. Паглядзіце на гэтые слаўные вясковыя стойкі, каторыя і па сягодняшні дзень возяць вашых п'яных паліціянтаў і жандараў з іх каханкамі па вечарынкэх...

Неўмалімая Немізіда, гістарычнай падзеі загадала Немцам асвабадзіць Торунь, Грудзенц, Быдгошч і шмат іншых мейсцаў і мястэчак Шлёнску з нямецкай большасьцю жыхароў. Ня сёньні, то заўтра, не за год, то два выпадзе так сама і вам пакінуць нас. Рэнэга-

ты нашые выходзячыя з Сярэдне-Літоўскага раю пазаставілі вам сваё наследства.

Што ж вы заставіце нам?! Хіба збэшчаных вашых сыноў у белых „батаруўках“, спаўняючых абавязкі шпігаў... Не, гэтыя нам не патрэбныя, можеця забраць з сабою „для больш“ (карыстнай) працы на чесьць сваей“ Бацькоўшчыны.

Астанецца пасьля вас на вечную памяць: крыўда, жаль і слёзы народу, павадыроў і ксяндзоў каторага вы мучаеце па турмах. Застанецца плач дзяцей выкідаемых са школ... Застанецца крыўда малых з прытулкаў выгнаных... Застанецца новы спосаб замыкаць вусны праціўнікаў... Застанецца пасьля вас плач жонак і дзяцей развітываючыхся з мужамі і бацькамі ідучымі на невядомыя мукі... Застануцца раны зробленныя клапамі і вошамі ў Лукішкім плацу.

Нарэшче застанецца гісторыя „найдэмократычнейшых“ выбараў у Віленскі Сойм, каторы за атсутнасьцю пахвалы яму Эўропаю, самі Эўропе прыкладам ставіце. „Учыся Эўропа,—як трэба рабіць Соймы“.

Вырываючы вытрыманых і загартаваных Літоўскіх працаўнікоў на ніве грамадзянскай, ворагі нашыя напэўна лічылі, што гэткім спосабам пазбавяць грамадзян жывога слова. Дарма. Вы забыліся, што ўсе мы дзеці вёсак, а вёска наша багатая—маець нявычарпаныя—новыя сілы.

Забралі гэтых, сягоньня стануць цэлымі караючымі шарегамі на барацьбу з вамі другія. Забярыце іх, заўтра паўстануць новыя сілы. Забярыцё і гэтых, пазавём на барацьбу ўвесь люд, зробім з вамі рашучую бітву і... зможам вас не мячом, а сілаю духа нашага... зможжам вас ідэяй, каханай намі. Вам браты літвіны і беларусы, паўшая першаю ахвяраю перамогі—шлём з Літоўскім людам павіншаваньне ідучае з глыбіны сэрца і запэўняем вас, што ідэі, каторым вы верна служыце, мы будзем бараніць да апошняга дыху цярпіцяж. Ня доўга засталося нам чакаць, калі ў Вільні—старадаўняй сталіцы Незалежнае Літвы застанецца адыграная драма запольскай пад назваю „ “ і калі Віленская публіка ўбачыць на сцэне ў першы раз, за мест азнак царскіх прыхвастняў, адзнакі польскіх камісараў.

Nowicius.

(Litwa Nr. 4. 11—II.—22).

---

## Ліквідацыя „афэры“.

Польскія часопісі, асабліва варшаўскія, ў кароткім часе на агульна вядомых арыштаваньнях у Вільні здэзарыянтаваліся, і пачалі сумлевацца ў слушнасьці абвінавачаньня. I на галасьлівых камунікатах і артыкулах справу арыштаў назвалі „афэрай“. Відочна трэба зразумець афэру палк. Тупальскага з акружываючымі яго завушнікамі, каторыя добра яму ў гэтай справе памагалі.

Як адбываліся арэшты і рэвізіі і што зробляна з арыштованымі, нашы чытачы ўжо ведаюць. Ня ведаем за што іх арыштавалі і мучаць у астрозе? Хіба за тое, што яны ёсьць сьвядомымі Літвінамі? Бо ў тое, што пракуратура апавешчаіць, гэтых 5 закідаў, яна сама ня верыць. Грамадзянства польскае ўжо страціла веру ў гэтыя шумныя апавяшчэньні „нова адкрытых літоўскіх шпіоноў“.

Пакуль пяройодзем да ўласьцівае тэмы ў гэтым артыкуле мусім дадаць уступ з урадовага прызнаньня ў справе арыштаў, каторая мы зьмясьцілі ў учарашняй нашай часопісі. Захоўваючы арыгінальны і дакладны тэкст, хочам падкрэсьліць знаньне польскае мовы паноў урадлікаў у Сярэдняй Літве. Як зразумець гэты ўступ:

Аказваецца (!) што ў часе калі сабраўся пры вялікім учасьці люднасьці Сойм. каторы пастановіць аб лёсе краю, група агітатараў паддалася злудам (!) што здужаіць зрабіць у краі замешаньне. (Цізж вы паны да рэшты ўжо страцілі розум, тож арышты наступілі 20 студня, а ваш сойм „сабраўся“ 1 лютага). Не знайшла яна сярод мяйсцовае люднасьці паслуху а судовыя ўлады перарвалі яе спакусы. (Дзе сэнс?) Ня хочучы замуціць урачыстага часу калі воля (!) люднасьці, ў высказаньню сойму, знайдзіць свае выражэньне, а таксама перагавораў запрапанаваных праз Ковенскую Літву, і прынятых у Варшаве па колькіразовых умешаваньнях (?) Ураду Рэчыпаспалітай Польскай, выдана гэткі загад“...

Каня дадзем таму хто адгадаіць вышэй прыложаную стылёвую загадку. Перш паны працягніця руку на граматыку Крынскага і да лекцый трохы папулярнай навукі логікі, а пасьля ўжо на кадэксную кнігу. Так!

Ставіця нам Літвіном паважные пункты абвінавачаньня—то чамуж іх у безпрыкладны спосаб выгналі з краю? Тож мы ўсе вашага суду хацелі. Хацелі пагляцзець у вашы вочы. Скажыця якімі вы кіраваліся паглядамі, пакуючы арыштованых у марозную ночь у сьцюдзёныя вагоны, каб выгнаць іх з родных хат? Тож паміж іх ёсьць такіе, каторыя маюць большае права да жыцьця ў Вільні, чымся ўсе тые каторыя бязмысьльна па іх адрэсам кінулі рад закідаў. У сваім часе мы ваш пастулак назвалі „бандыцкім“. За гэта слова некаторыя віленскія часопісі пачулі да нас жаль! Мы цяпер на акрэсьляньне пастулку ўлад, які меў мейсьца 6 лютага, не маем слоў якім можно было-б акрэсьліць гэты паступак. Можа вы нам у гэтым выпадку паможеця? Бо мы ўжо не маем адпаведных слоў.

Ці можам вам даровацъ за сьлёзы маленькіх дзяцей, за труды нашае радні!? Нашы сэрцы засталіся, замкнутымі крывавымі сьлязьмі, каторыя ліліся. калі прывялі арыштаваных дамоў на разьвітаньне, кажучы будзіць дзяцей, каб яны разьвіталіся з бацькам. Ня ведалі яны, куды іх дарагіх бацькоў загоняць і што з імі зробяць? Мукі ў іх маладых сэрцах трывалі да таго часу, аж пакуль вы не абвесьцілі, што з імі зрабілі. Рана, каторую вы задалі дзяцём, не гаворачы ўжо аб сталых, будзе для вас злопрасказуючай ценьню пострaху.

Помніця аб гэтым!

Gal...

(Litwa № 5,225).

---

## Ужо, цяпер, паночкі ня выкруціцеся!

Калі толькі распачаліся ў Вільні арэшты літвіноў і беларусаў, газэты польскія зьмесьцілі некалькі поўафіцыяльных паведомленьняў за што літвіны і белар. засталіся арыштаванымі і пасаджанымі у турму. Асьвяцілі выразна, што ўсе арыштаваныя зрабілі цяжкія праступкі і што ім пагражае кара сьмерці. Нават на вуліцах зьявіліся вялікія плакаты аб адкрыцьцы страшнай літоўска-беларускай камуністычнай оргарізацыі. У Вільні забурліла. Спакайныя грамадзяне даведаліся што кс. канонік Кухта ў сваім памешканьню хаваў многа аружжа, бомб і пякельных машын. у часе, калі сабярецца Сойм, кс. канонік Кухта меўся схаваць у сваей сутане моц гэтых прылад знішчэньня, зблізіцца да гмаху сойму і зьнішчыць усе да шчэнту.

І згінулі бы ўсе выбары да Сойму ў Віленшчыне, а разам з імі згінула бы моц людзей—звычайных грамадзян. Але Віленская паліцыя высьледзіла усю гэтую арганізацыю і замкнула яе ў турму. Распачалося сьледзтва. Апрача аружжа і бомб, знайдзена многа рожных компромітуючых папераў. Усё гэта абвешчана ў часопісях і больш усяго разносілі гэтыя весткі „анальфабэты".

Усё з занепакояньнем чакалі суду і справядлівага выроку суда: павесіць усіх арыштаваных. Раптам у нядзелю 5-га лютага г. г. ў месьцы разпаўсюдзілася пагалоська, што ўсіх арыштаваных вывязьлі неведама куды. Усе гаварылі аб вывязеньні, але ніхто не ведаў куды і дзеля чаго. У панядзелак вечарам усе прачыталі ў „Gazetcie Wilenskiej" „нотатку" — зварьненьня арыштаваных літвіноў.

„WAP" даведаўся з пэўных крыніц, што ў ночы ў нядзелю ўсе арыштаваныя літвіны і беларусы засталіся зволненымі. Частка арыштаваных з Біржышкаю на чале засталася высланаю ў Коўна. Рэшта атрымала права пабыту ў Вільні. Сьледзтва далей ідзець.

Сталася гэта дзеля паўторнай інтэрвенцыі польскіх улад.

Заўтра дамо аб гэтым большыя і падробныя інфармацыі.

Што магло прыйсьці на думку чытачу, прачытаўшаму гэтакую інформацыю. „Gazeta Wileńska" хацела становіча угаварыць людзям, што ўлады польскія ёсьць так наскончана добрыя, што нават даруюць віны найзаядлейшым разбойнікам (збродняжам).

Цікава толькі, ці часопісь навет своіх' чытачаў заставіць, ці не, паверыць у напісанае?

Але найкапітальнейшым у гэтай „нататцы" — „што сьледзтва далей ідзець". Выслаць праступнікаў да чужой дзяржавы, з каторою няма ніякіх зносін, і вясьці далей сьледзтва, гэта... гэта... мажліва толькі ў „Сяредняй Літве". Улады гэтае дзяржавы „Літвы Сярэдняй", па заканчэньні сьледзтва, аддадуць высланых злачынцаў пад суд, гэты не абвесьціціць усім ім кару смерьці а пашле ў Коўну. Атрымаўшы такую кару, ў Коўне, мусі быць, зьнясуць усім высланым галовы. Цяпер, паночкі, ня выкруціцеся!

„Niekas"

(Vilnietis № 29)

## Цікавы пратэст.

Ужо даўна як я ня чуў віленскіх кабетак. Па апошнім сваім выступлені, „нацыянальна—яечным" на віленскім вагзале пад камандай п. М., віленскія кабеткі ўзялся за хатнюю працу.

У часе выбараў у віленскі Сойм ня можна было выявіцца бо бракавалабы кабеткам яек і сіл, каб захацелі вынішчыць сваіх праціўнікаў. Выбарны час для віленскіх кабетак быў тады часам толькі агурковым.

Далей наступіла новая „гэца". зробленая праз Сярэдня-Літоўскіх „моцнаўладароў"—аблава на Літвіноў і Беларусаў. Тут кабеткі паціралі рукі і цешыліся, што нарэшці арыштаваные будуць зьнішчаны. Але вось сталася сярэдне-літоўская справядлівасьць пайшло наадварот і заместа сьмяротнае кары „праступнікі" засталіся высланымі з Сярэдняе Літвы.

Гэтага замала—падумала сабэ кабечая эліта, галубая віленская кроў. Трэба ад суда зажадаць разьясьненьня, ўнясьці пратэст, пазваць усё грамадзянства. Няхай скранецца, няхай дасьць волю свайму абурэньню, няхай яшчэ раз хопіцца яек і абкідаіць... Кабеты, пані і віленскія палячкі—пытаемся вас—Каго?

Ці падпісаныя на пратэсьці прэдстаўніцы сільных гэтага сьвету, угэрбаваны пані, галубой крыві, не разумееця, што тыя людзі былі невінаваты, калі іх выпусьцілі. Ці хочыця разуменьне віленскіх кабет з люду абвіць фальшам, каб яшчэ раз пазваць іх да паступкаў „зробленых" яйкавых?

Добрых камандзерак маюць віленскія кабеты ў вашых асобах.

Кабеты—Літвінкі, ціхія працаўніцы, адданые маткі для сваіх дзяцей, не крычаць, не галасуюць, паміма, што большая маюць на гэта права.

Яны ціха зносяць боль і цярпеньні ў сваім сэрцы, ціха аблівають сьлязамі сваіх мужыкоў кармільцаў, каторых ад іх бязьлітасна адарвалі і выслалі.

Праціў чаго галубой крыві пані пратэстуеця? Што за цэль мае ваш пратэст?

Ці вы такіе хцівыя відзець кроў, напружаныя ўмыслы; ці можаб вы хацелі прыяздобленыя, напарфумаваные, зашчыціць працэс сваей бытнасьцю, без перастаньня лернэтуючы выдаваць свой прысуд, як гэта было летась у часе працэсу „ударнікаў".

Гэтага жадала сяброўская эліта віленскіх кабет, каторая ўжо летась у восень упрагла ў свой рыдван віленскіх кабет з люду, каб тыя зрабілі на вагзале „яечна-кацячую" серэнаду.

Ваш пратэст, пані,—гэта фэервэрк на віленскай сцэне.

(Litwa).

## Слаўны пратэст яснавяльможных паняў.

Мабыць у адказ на пратэст беларускіх і літоўскіх жонак праціў самога факту і спосабу высылкі іх мужоў у Коўна асьмеліліся выступіць з сваім „пратэстам" польскія пані: Браніслава Марачэўская, Фэліксова Вроэль Плятэр і А. де-Бонды.

Яны пратэстуюць праціў „пагвалчэньня права", так як арыштаваных „выпусьцілі на волю".(?)

Яны, затужылі аб часох праклятай паншчыны „калі па праву" катавалі наш беларускі народ, часох, калі ім усё было дазволена: біць, саджаць у вастрогі навет забіваць людзей, прадаваць іх, як сабак і г. д.

Што гэтым слаўным паням да таго, што арыштаваных бяз суда і навет не закончанага следства, ў начы, ў мароз, ня даўшы уладзіць свае дамовыя, сямейныя справы, вывезьлі, ня кажучы куды, і, як потым аказалася, да Літоўскай граніцы...

У гэтым яны ня бачаць „пагвалчэньня права".

„Бел. Звон" № 4 (29)—17. 2.

## Трэба падацца ў адстаўку.

У астатнім нумары „Wil. Kur. Pośw." мы дамагаліся ад уладаў афіцыяльнага высьвятленьня справы арэштаў Літоўскіх і Беларускіх дзеячоў. Мы дамагаліся апублікаваньня ўсяе праўды і прыцягу да суровае адказнасьці віноўных у гэтай сумнай кампраміту- ючай афэры.

Тымчасам замест выясьненьня звалілася на нас, як гром з яснага неба, вестка, што 33 арыштаваных дзеячоў ужо вывезены да нейтральнага пасу бяз права паварота на Віленшчыну, а зроблена ўсё гэта для таго, каб „не засмуціць радаснага настрою".

Першая віленская „Жэчпосполіта" выявіла сумлевак у паваже поваду выпушчэньня, пададзенага праз услужлівае агенства „W. A. P." і ня было такога наіўнага чалавека, каторы паверыў-бы ў гэты „важны повад". Наадварот, з за яго выглядала зусім штось іншае: выглядала кампраміцацыя

тых асоб, каторыя загадалі арэшты і ўсей вышэй памененай справай кіравалі, кампрамітацыя паноў Аляксандра Мэйштовіча, пракурора Пшылуцкага, п. п. Тупальскага і Сенькевіча.

Потым прыкладвалася стараньне з дапамогаю залежнае прэсы ўсю віну зваліць на Польскі Урад, каторы загадаў выпусьціць і такім спосабам ня даў магчымасьці дамарослым Шэрлок Холмсам давясьці праступкі, накінутыя на вывезеных. Праўда, Урад Польскі катэгарычна настая, каб выпусьціць арыштаваных з турмы, каб яны маглі адказываць будучы на волі, але прынамсі Урад Польскі не прыказаваў Вам, паны, вывозіць абвінавачаных з Вільні, тым больш не загадваў іх арыштоўваць.

Аб вышэй памяненай справе знаходзім у нядзельнай „Gaz. Kr.“ артыкул, у каторым чытаем: „Віны арыштаваных не даведзены. Афіцыяльнага абвінавачваючага акту не прад'яўлена. Нават усіх не дапрасілі. Не праведзена яўна публічнага суда — не абвешчана судовага прыгавара.

На якой падставе людзі, катерым не дадзена права легальнае абароны і рэабілітацыі, і далей называюцца праступнікамі?

На якой падставе 33 жыхары краю засуджаны на выгнаньне?

У праваўым парадку этыкета праступніка налепліваецца чалавеку пасьля судовага прыгавару і робіць яго потым прэдметам гэтага назову.

Усе ведаем, што частка арыштаваных была варожа настроена да Польшчы, мы бачым адкрытае і бязуступчывае змаганьне з існуючым тут парадкам.

Але прад'яўленыя абвінавачваньні такія цяжкія, а пастулкі ўлады так не-паступовы, няясны і нэрвовы, што аб аб'ектыўны незацікаўлены сьведка ўсяе гэтае смутнае справы павінен усумніцца ў павазе ўлады і ў важнасьці абвінавачваньня.

Так сама ведаем, што паміж абвінчваных ёсьць людзі, каторыя працаю сваею не адзін раз сьцвердзілі сваю лаяльнасьць, нават прыязьнь ў адносінах да Польшчы, што абвінавачаныя ў камунізьме даказалі сваю варожасьць да яго, аружна змагаючыся з бальшавіцкім наездам поруч з польскаю арміяю:

Знаем што 7 арыштаваных па[illegible] сьля першага дапр[illegible]у былі [illegible]ольнены, што сумна[illegible]едч[illegible] аб нячуваных мэтад[illegible]арганізаваньня масавых аблаў і пакаван[illegible] нявінных людзей на Лукі[illegible]

усякі выпадак“ з праўдзівым „stupejkowskim“ спакоем за іх здароўе.

Ведаем, што ня ўсе урадовыя асобы лічылі патрэбным пачынаць гэты скандалічны, бязглузды рэакцыйны выбрык, бо відаць, сьледчая улада замэла мела матэрыялу.

Хто вінен, пытае далей „Gaz. Kr.“ Урад Варшаўскі, ці можа хто іншы, хто сядзіць у Вільні на „Замку“.

„Маем даныя думаць, піша „Gazeta Krajowa“, што Варшаўскі Урад як бы там ні было, не складаецца з неадказных адзінак, што ён маіць паняцьце, аб праве і палітычнай парадачнасьці.

Адстаўка палкоўніка Тупальскаго і Сенькевіча („моцнай рукі“ і „слабай галавы“); нам здаецца падзьцьверджае нашае дапушчэньне. 33 абвінавачаных жыхароў краю ёсьць свойскай выдумкай, тых „мужаў стану“ каторыя на гэты раз за „моцна“ хваціліў у „кіраваньні ваяводствам“. Вельмі церпялівае і пабажлівая (на жал), Варшава, не вытрымала.

Але тут правініўся і яшчэ хтось. Хтось, каторы праз увесь час гэтае небывелае гісторыі „нічога ня ведаў“. „Ня мешаўся да судовых улад“, „нічога ня мог“, потым жа вельмі тоненька, нават плачліва, пеяў аб „іншым сваім становішчы“ ў гэтай справе — хтось, што быў тут пастаўляны каб сьцерагчы аўтарытэта Польскае Улады і не кампрамітаваць яе перад сьветам, наглядваць, каб не пашыраўся нацыянальны антаганізм, каб усе жыхары краю карысталіся апекаю права і справядлівасьці — хтось, які гэтую справу дашчэнту скампрэмітаваў.

„Gaz. Krajowa“ піша больш далікатна аб тым схаваным вінавайцы, бо іначэй пісаць ня можа, але мы не апутаныя ні якімі паглядамі, незалежны ад ўсесільных сярэдне-Літоўскіх царкоў, можам назваць вінаватых па іменьні.

Віноўнік усяе гэтае кампрамітуючае справы, на якога павінен зваліцца галоўны цяжар віны, ёсьць прэзес Часовае Урадуючае Камісіі п. А. Мэйштовіч. Ён то ўвесь час удаваў „наіўнага“, гэта ён пастаянна „нічога ня ведаў“, ён упарта супраціўляуся жаданьню Польскага Ураду выпусьціць арыштаваных на волю і ён самавольна аброк арыштаваных на выгнаньне з краю і вываз. Ён павінен прыняць на сябе рэзультаты і падаць ў адстаўку, і аддаць Урадовае Кіраўніцтва ў

меньш дыпляматычныя, але дастойныя рукі.

Треба падацца ў адстаўку—пане Прэзэз.

(„Wil. Kur. Posw. Nr. 7(13) 13·2.

---

## У справе арэштаў.

Гучная цяпер на цэлую Эўропу справа арэштаў беларускіх і літоўскіх дзеячоў, закончылася для ўсіх, у спосаб заўсім нячаканы.

У ночы з 4 на 5 лютага 33 грамядзяне краю вывезяны ў польска-літоўскі неўтральны пас і там выпушчаны без права павароту.

У паведамленьні прэсовага агенства, як прычына гэтай арыгінальнаі амністіі, падана „жаданьне не замуціць урачыстай хвілі“ сабраньня сэйму.

Згаджаемся ў цэлым з скептычнай ацэнкай „Rzeczpospolitej“ што датычыць праўдзівасьці вышэй сказаных матываў звальненьня. Праясьнілі бы, зьбітае баламутнымі паведамленьнямі, грамадзянскае абурэньне на нашыя урадовыя установы, за адданьне Ковенскай Літве, арыштаваных без вымены на мучаных і зьдекаваных палякаў у турмах Коўны. Але справа выглядае наадварот.

Віны арыштаваных не даказаны. Афіцыальнага акту абвінавачаньня не дадзена. Не ўсе нават былі дапрошаны. Ня вялося адкрытай публічнай справы суда— не вынесяна нават пастановы суда.

На якой падставе людзей, каторым не дана права легальнай абароны і рэабілітацыі ў дальшым працягу, называюць разбойнікамі? На якой праўнаў падставе засуджаны 33 грам. краю на выгнаньне? У праваўых стасунках этыкетў разбойніка, прылепляюць чалавеку насля (сказуенцым ) пастановы суда і толькі тагды ён робіцца прадметам вымены.

Ведаем усе, што частка арыштаваных, была ворожа настроена у адносінах да Польшчы, бачылі яе адкрытую і безкампрамісную барацьбу з існуючым дзержаўным парадкам. Але інкрымінаваныя абвінавачаньня ёсьць такія цяжкія, і пастулкі улад вельмі неясныя і нэрвовыя, што аб'ектыўны, незабаламучаны аглядчык гэтай цэлай смутнай справы, мусіць непэверыць у павагу улад і павагу яе абвінавачаньня.

Ведаем, што пасярод абвінавачанных ёсьць людзі, каторыя

